


# ДРАМАТУРГІЯ ЯНКІ КУПАЛЫ



Я Купала (справа) і П. Малчанаў — пастаноўшчык спектакляў «Паўлінка» і «Прымакі» ў Віцебскім тэатры.

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 24 (279) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 17 ЧЭРВЕНЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР

Той, хто аднойчы бачыў на сцэне або чытаў камедыю «Паўлінка», напэўна назаўсёды запамятаў імя яе аўтара — народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. А калі яму прыходзілася да гэтага часу чытаць вершы і паэмы Янкі Купалы — заўсёды глыбока ўсхваляваныя, рамантычна пафасныя і па-народнаму простыя, ён мог бы шчыра здзівіцца шматграннасці таленту пісьменніка, вялікага паэта, заснавальніка беларускай нацыянальнай драмы і камедыі.

Янка Купала (1882—1942) прайшоў вялікі творчы шлях. Жыццё народа, яго інтарэсы і жаданні заўсёды былі душою творчасці пісьменніка. Ва ўмовах суровага дарэвалюцыйнага мінулага Янка Купала служыў справе сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення працоўных Беларусі, і з гэтай жа энергіяй і самаахвярнасцю аддаўся ён барацьбе за ідэалы, абвешчаныя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй. Яго захапленне тэатрам прыпадае амаль выключна на дарэвалюцыйны перыяд.

Рэвалюцыя 1905 года, глыбока ўскалыхнуўшы шырокімі народнымі масамі царскай Расіі, прабудзіла разам з тым іх нястомную прагу да ведаў, да творчасці. Пасля рэвалюцыі ў Беларусі, напрыклад, арганізуюцца шматлікія гурткі самадзейнасці, паўстае першая прафесіянальная тэатральная трупа, якой кіруе вядомы дзеяч нараджаючагася нацыянальнага тэатра Ігнат Буйніцкі. Энтузіясты беларускага тэатра з поспехам ставілі тады рад перакладных п'ес і інсцэніровак рускіх, украінскіх, польскіх аўтараў. Але глядач чакаў ужо і беларускіх п'ес. Адчуваючы гэта, многія літаратары прабуюць свае сілы на драматычнай ніве, і сярод іх — Янка Купала. І так, да 1912 года паявілася яго «Паўлінка», у 1913 — драма «Раскіданае гняздо», вадэвіль «Прымакі».

Усе п'есы Янкі Купалы, нескладаныя па змесце, падымаюць у многім тыя ж праблемы і матывы, якія былі характэрны дарэвалюцыйнай творчасці паэта. Але каб не было гэтых п'ес, наколькі бяднее выявіў бы ён свой багацейшы запас жыццёвых назіранняў, наколькі менш ведалі б мы аб ім, як аб раскрывальніку тайн чалавечага сэрца, як аб мысліцелю!..

Вобраз маладой Беларусі, разбуджанай да актыўнага гістарычнага жыцця, быў самым любімым вобразам Янкі Купалы.

Прадстаўніком гэтай жа маладой Беларусі з'яўляецца ў камедыі «Паўлінка» яе галоўная гераіня — дачка дробнамаянтковага шляхціца Сцяпана Крыніцкага. Але камедыя



Настаўніца П. В. Мядэлка — адна з першых выканаўцаў ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Я. Купалы.

паказвае, з якіх нізін прыходзілася падымацца сакалінай сям'і прадстаўнікоў маладой Беларусі — Паўлінцы і яе каханаму, Якіму Сароку. Паказвае яна і тое, якім нялёгкім быў для іх гэты

(Працяг на стар. 2)

# ГАЙНАЎСКАЯ «МАЗАІКА»

Шуміць лес. Да сонца выцягваюцца шапкі ясеняў, дубоў, кляноў. Плывуць гады — 10, 30, 60, 100, 200. Прыходзяць лесарубы. Пілы і сякеры тнуць векавыя дубы. Сцятыя дрэвы вазакі звозяць у месца складу, адкуль чыгункай давозіцца іх у лесапільню. Тут дрэвы тнуцца на doскі. Роўныя штабелі досак тры месяцы сохнуць на сонцы. Пасля іх перавозяць у механічную сушарку, дзе на працягу 8—10 дзён вільгаць зусім выпарваецца з дрэва.

Урэшце вандруюць у цэх апрацоўкі. Тут з досак пасля шматлікіх прадукцыйных цыклаў атрымоўваецца «Мазаіка» (паркет да ўкладання падлогі).

Штодзённа ў цэхах Гайнаўскага прадпрыемства драўлянай прамысловасці выраблаецца каля 5000 квадратных метраў такой мазаікі.

(Працяг на стар. 4)



Пятро Грыгарук абслугоўвае машыну да перарэзвання.

Працяг са стар. 1

## ГАЙНАЎСКАЯ МАЗАІКА

— 60% выпрадукаванай «мазаікі» прызначаецца на экспарт, — кажа інж. Аляксей Зін. — Пастаянна нашую мазаіку купляюць: Швецыя, Італія і Англія. Ад нашага мясцовага рынку ёсць таксама агромныя запатрабаванні на мазаіку.

Мазаіка — гэта сёння найбольш хадлівы і танны матэрыял да ўкладання прыгожых памостаў. Мазаіка шмат танейшая за традыцыйны паркет.

З аднаго кубічнага метра досак можна атрымаць 17 квадратных метраў паркету, або 40 квадратных метраў мазаікі. Адзін квадратны метр паркету каштуе 210 злотых, а мазаікі ўсяго толькі 110 злотых.

На тэрыторыі Беласточчыны ў мінулым годзе пабудавана 12.965 жыллёвых кватэр, на агульную плошчу 256 535 квадратных метраў.

Калі б на плошчы 256 535 квадратных метраў паложана замест традыцыйнага паркету Гайнаўскую мазаіку, то можна было б заашчадзіць 25 мільёнаў злотых. За гэтую суму можна было б пабудаваць 5 новых школ, або 6 жыллёвых будынкаў.

Як з гэтага відаць, мазаіка вельмі карысны матэрыял у жыллёвым будаўніцтве.

Тэкст і фота
**Т. Чачкоўскі**



**Слёсар Фелікс Пілюцік пастаянна сочыць за працай машын.**

# ДАРОГІ

Дарогі ў гаспадарцы павета маюць велізарнае значэнне. Без добрых дарог нельга сабе ўявіць развіцця прамысловасці ўсёй наогул гаспадаркі.

Пасля заканчэння вайны дарогі ў нашым павеце мелі безнадзейны выгляд. Было толькі дзве дарогі: Бельск—Белавежа і Бельск — Нарва. Былі знішчаны ўсе масты. Пачатак быў цяжкі, трэба было ўсё пачынаць спачатку.

У першыя гады народнай улады пабудавана дарогі: Бельск — Кляшчэлі і Гайнаўка — Нараўка. Заданні і патрэбы павета аднак былі большымі. Грошай не заўсёды хапала на пабудову патрэбнай колькасці дарог. Трэба было знайсці іншы выхад. І вось таму нарадзіліся грамадскія чыны. Гэтыя чыны ўвайшлі ў рэалізацыю 10 год таму назад. Першыя рэзультаты прынёс 1953 год, у якім пабудавана грамадскім чынам 3 адрэзкі жвіровай дарогі, а вёска Камень першая пераклала маставую.

У 1954 годзе быў утвораны Гайнаўскі павет. Адсутнасць сувязі Гайнаўкі з грамадскімі радамі нарадовымі перашкаджала ў адміністрацыйнай дзейнасці. У 1954—55 гадах да грамадскіх чынаў прыступілі амаль усе жыхары павета. Поспех быў вялікі: 13 км дарогі Навасады—Нарва і 26 км дарогі Гайнаўка — Кляшчэлі.

У наступных гадах грамадскія чыны не зменшыліся. Гаворыць аб гэтым факт, што ад моманту ўтварэння павета да сённяшняга дня вартасць прац грамадскіх чынаў перавысіла 53 мільёны злотых.

У мінулым годзе звярнулі большую ўвагу на будову вуліц у вёсках павета. Цвёрдую маставую атрымала 20 вёсак, напрыклад: Ляўкова, Бельшчызна, Дабрывада, Скупава, Вітава і іншыя.

Пры будове дарог у бягучым годзе сотні простых людзей з вёскі адзначыліся ў працы сваёю ахвярнасцю. Паказалі яны сябе як добрыя грамадскія дзеячы. Да іх трэба аднесці: Сяргея Пташынскага — працаўніка пошты, які паказаў сябе добрым арганізатарам пры пабудове дарогі Палічна — Кляшчэлі, Мечыслава Яськевіча, які выкапаў 50 м рова. Шмат працы пры пабудове вуліцы ў вёсцы Дабрывада ўклаў солтыс гэтай вёскі Назар Клімовіч, а таксама жыхары вёскі Тэодар Вэрэмчук і Афанасій Стэфанюк. У грамадзе Новаберазова на пахвалу заслугоўвае солтыс вёскі Шастакова Мікалай Мароз. Чалавек гэты ініцыятыўны, імкнецца да спалучэння цвёрдаю маставою вёскі Шастакова з Новым Беразовам. Жыхары вёскі Шастакова самаадвольна аблажыліся налогам і за атрыманыя грошы купілі камень, жвір і выконваюць нефаховыя работы. У бягучым годзе дарога Шастакова — Новаберазова напэўна будзе пабудавана.

Можна было б прывесці шмат іншых прозвішчаў, якія далі б доўгі спісак ахвярных жыхароў Гайнаўскага павета.

У выніку спаборніцтва паміж грамадскімі радамі нарадовымі ў 1961 годзе ў пабудове дарог першае месца заняла грамада Ляўкова Старое. Дарожныя працы ў гэтай грамадзе выканана на суму 465 тысяч злотых (на аднаго жыхара выпадае — 273 злотых). Другое месца заняла ГРН Кляшчэлі, а трэцяе — Белавежа. Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы, даацэньваючы дасягненні грамады Ляўкова Старое ў пабудове дарог, у мінулым годзе перраказала ёй пераходны сцяг.

Міма шматлікіх дасягненняў становішча дарог у Гайнаўскім павеце ў далейшым з'яўляецца нездавальняючым. Наогул маем у павеце 1000 км дарог, у гэтым з цвёрдай маставой 190,5 км.

Грамадства Гайнаўскага павета разумее значэнне дарог. Сведчыць аб гэтым факт, што ў бягучым годзе ўжо 50 вёсак прыступіла да дарожных чынаў на суму 9 мільёнаў 623 тысячы злотых. У рамах гэтых абавязацельстваў плануецца пабудаваць 9,2 км брукаваных вуліц у 20 вёсках на суму 5520 тысяч зл., а таксама 16,75 км жвіровых дарог на суму 4187 тысяч зл. Будуць пабудаваны дарогі Альхоўка — Масева 6 км, Волька Тэрэхоўская — станцыя Чаромуха 3 км, Жукі — Кляшчэлі 3 км і некалькі меншых дарог.

Выкананне гэтых прац у бягучым годзе будзе патрабаваць вялікага намагання з боку грамадства Гайнаўскага павета. Пры яго актыўным удзеле ў пабудове дарог заданні гэтыя напэўна будуць выкананы.

**Уладзімір Сац**

# Паміж паданнямі, легендамі і гісторыяй

(Працяг са стар. 3)

кім Райску звоняць у царкве?

— Ну так, — адказалі мне жанчыны...

### БЭТЛАХ І БЭТЛАЖОК

Каля 50 метраў ад замкавай гары на паўночна - захад знаходзіцца гара, а побач яе — другая, крыху меншая. Першую людзі называюць Бэтлах, другую Бэтлажок. Ходзіць паданне ў народзе, што гэта ўсыпаныя курганы, у якіх пахаваны бацька і сын. Ці гэтыя два курганы маюць нешта супольнага з вялікім курганам званым «замкавай гарою?» — невядома. На пацвярджэнне, што маюць, можа быць толькі адна прадпасылка: іх суседскае размяшчэнне... Што назва «Бэтлах» неславянскага паходжання — у гэтым няма сумнення. Яна хутчэй усяго татарская. І цікава чаму да гэтай пары ніхто з гісторыкаў не пацікавіўся ёю. Канстатуючы дыскусію аб яцвягах можна дапусціць думку, што расшыфраванне хаця бы гэтай загадачнай назвы і ў дадатак дакладныя раскопкі курганаў маглі б унесці нешта новага ў гісторыю Бельшчыны.

### «ССЫПКІ» — НАВЕЙШАЯ ГІСТОРЫЯ

Гісторыя аколіцы Гацькоў не канчаецца на «замкавай гары» і гэтых двух курганах. Ёсць там яшчэ некалькі курганаў, малых, або зусім ужо панішчаных, якія людзі называюць тут «ссыпкамі».

Адна з іх знаходзіцца ў 300 метрах ад «замкавай гары» на паўднёвым-усходзе. Фёдар Казмірук расказаў мне аб ёй наступнае.

— Яшчэ за царскіх часоў гэтую ссыпку заарана. Знойдзена тады ў ёй шаблю. Яна на жаль, не захавалася. Цудоўна выглядала, збоку на рукаятцы быў нейкі напіс... Ссыпка гэтая ў нас найбольш папулярная, бо дасюль захавалася вестка, што на ёй калісьці генерал паставіў армату і з першага выстралу забіў свайго ворага, князя, які размясціўся на ўзгорку каля Кнаразоў. Гэта будзе каля 6 км ад нас. Гару каля Кнаразоў да сённяшняга дня называюць «Князева гара».

У 1908 г. гацькоўцы раўнялі плошчу пад будову школы. Раўняць было нялёгка, бо будаваць школу трэба было акурат на «ссыпцы». Раскапана, а там — поўна чалавечых касцей. Косці перавезлі ў другое месца і закапалі. «Ссыпка» гэтая знаходзілася амаль пасярэдзіне сучасных Гацькоў.

З трэцяй «ссыпкі» (на полі) у час ворыва часта выворваліся людскія косці. У 1940 годзе бралі тут пясок на пабудову дарогі. На глыбіні каля 0,5 м трапілі на магілу. Яна была абмежаваная чатырма стоўбікамі з колатага камення. На кожным з іх вырыты былі крыжыкі. Пасярэдзіне магілы знойдзена астаткі глінянай пасуды, струхлелыя косці і здаровыя зубы. Месца гэтай «ссыпкі» сёння ледзь прыкметнае: маленькі толькі ўзгорачак, зраўнаны людзьмі і атмасфернымі дзеяннямі.

* ✲ *

У вёсках узнікненне магіл — курганаў прыпісваецца перыяду шведскіх наездаў. Скажам толькі, што меркаванне гэтае няправільнае, бо нават гэтыя гацькоўскія «ссыпкі» старэйшага паходжання. Але гэта менш важнае. Найважнейшым будзе тое, калі ўзніклі гацькоўскія курганы. Ці ў адным гістарычным перыядзе, ці гацькоўскія палі былі настолькі «шчаслівыя», што бачылі воінскія падзеі ў некалькіх гістарычных перыядах. Напрыклад, можна меркаваць, што магіла «ссыпка», аб якой мова ў канцы, паходзіць з перыяду ранняга хрысціянства. Сведчыць аб гэтым спалучэнне традыцыі язычаскіх і хрысціянскіх пахаронаў. Адначасова немагчымым з'яўляецца, каб у гэты самы час узніклі курганы «замкавая гара», Бэтлах і Бэтлажок. Варта, каб гісторыкі-археолагі пацікавіліся «гацькоўскімі падзеямі».

**МІХАСЬ КУРАШ**



**Гара Бэтлажок (здымак роблены з замкавай гары).**
**Фота: Т. Чачкоўскі**

(Працяг са стар. 3)

У гэтым і справа, лейтэнант, што пры такой сістэме абароны вашы салдаты нічагусенька не пабачаць! Яны бачаць толькі вось гэты ўзгорак, а калі партызаны падыйдуць бліжэй, яны натрапяць на мёртвую зону, дзе іх не зачэпіць ніводная куля.

Генрых накіраваўся ў пакой Фауля.

— Дайце журнал штуцпункту! — загадаў Генрых.

Фауль стаяў разгублены.

— Бачыце, гер обер-лейтэнант, — нарэшце сказаў ён, — я тут усяго тыдзень. Цяпер, калі прачытаюць вашы вывады, давядзецца вандраваць на ўсход...

Генрых запісаў у журнал некалькі радкоў: «Па загаду камандзіра дывізіі генерал - лейтэнанта Еверса 24 лістапада 1942 года мною была праведзена праверка штуцпункту №17. Аб'екты ахоўваюцца добра. Была праведзена баявая трывога. Збор салдат каманды і размяшчэнне вогненных засобаў безнаганны. Праверку праводзіў обер-лейтэнант фон Гольдрынг.»

— Прачытайце! — кінуў Генрых.

— Не ведаю, як выказаць вам сваю падзяку, — сказаў лейтэнант, прачытаўшы.

— Тады я вам параю: выпраўце ўсе памылкі. Ну, мне можна ехаць.

96

— Я быў бы вельмі шчаслівы, калі б вы згадзіліся са мною паабедаць, гер обер-лейтэнант.

Генрых прыняў запрашэнне.

За абедам Генрых даведаўся, што гэты тунель з'яўляецца запасным уваходам да Праклятай даліны і што дзейнічаючы ўваход знаходзіцца недзе за дзесяць кіламетраў адсюль.

Змрок пачынаў ахутваць горы, калі Генрых вярнуўся. Ён зусім забыў пра небяспеку падарожнічаць у такі час. Усе яго думкі былі накіраваны на тое, пра што ён даведаўся ад Фауля. «Калі нават запасны тунель так моцна ахоўваецца з абоіх бакоў, то аб'ект аховы павінен быць надзвычай важным. А як яшчэ дадаць да гэтага, што гэты аб'ект так засакрэчаны, то...

Аўтаматная чарга прашыла дарогу ззаду, потым спераду. Генрых даў газ, і матацыкл ірвануўся наперад, потым аб нешта ўдарыўся — прынамсі так здалося Генрыху ў тую кароткую хвіліну, калі ён адчуў, што падае.

На штуцпункце пачулі страляніну, і на месца падзеі неадкладна прыбыў атрад матацыклістаў на чале з перапуджаным лейтэнантам. Фауль загадаў акружыць мясцовасць, а сам кінуўся да обер-лейтэнанта, які толькі што, такі вясёлы, ад'ехаў ад казармы штуцпункту, а цяпер непарушна ляжаў у кювеце, за некалькі крокаў ад свайго матацыкла.

(Працяг за тыдзень)

97

 

## Бараной па пустазеллі

Не зусім прыемна чалавеку, калі, раскроіўшы буханку хлеба ці булку, пабачыць у сярэдзіне кусок шнурка, заіржавелага цвіка, іголку ці нават конскага капыта.

І хоць кішкі, як гэта гаворыцца, марша іграюць — не да яды тады чалавеку.

Вось з такімі рэчамі ў хлебе часта сустракаюцца жыхары Нарвы на Гайнаўшчыне. Прэтэнзіі і пажаданні, якія яны заносяць у адрас мясцовай пякарні і пекараў, пакуль не даюць ніякіх вынікаў.

А хлеб і булкі далей выпускаюцца з бракамі. Чаму?

Нараўскія пекары (што ж там таіць) — людзі не без граху. У іх асаблівая празмерная цяга да... гарэлкі. П'юць яны часта пры кожнай нагодзе і без нагоды. А нагод у іх нямала. Напрыклад, зробяць новую чапялу да печы і давай яе замочваць. А ўжо калі нараўскія пекары замочваюць дык да непрытомнасці.

Так было, напрыклад, 12 мая бягучага года. Пекары ляжалі ў пякарні папечаныя гарэліцай і нават пальцам не маглі варухнуць, а цеста да пячэння булак рыхтавалі выпадковыя жанчыны, у якіх няма ані карт здароўя, ані ніякіх праву працаваць у пякарні.

Такія выпадкі здараюцца даволі часта. Некаторыя кажуць, што нават старшыня ГС у Нарве ведае аб гэтых выпадках, але звыкся ўжо з імі.

Толькі людзі ніяк не могуць прывыкнуць да крывога, патрэсканага хлеба, напханага шнуркамі ды паіржавелымі цвікамі. (вб)




### У горадзе



— Выпадак?
— Не, цэлую нядзелю працаваў у агародзе.

### АДКАЗАЎ

Міхась: — Чаму жанчыны не ловяць рыб вудачкай?

Антось: — Бо над вадой трэба сядзець ціха і нічога не гаварыць.

Прыслаў **Юрка Скепка**
Альхоўка

### Хуткая дапамога?



Прашу хутчэй прыехаць! Не магу стаяць на нагах.

### РАЗМЕРКАВАЎ

Маці: — Васілёк, глянь! Курапятка ўжо выклевалася з яечка.

Васілёк, падумаўшы.

— Але як яно туды залезла?

Прыслаў **Я. Б.**

### УСПАМІНЫ

— На фронце, калісьці, як пачну рэзаць, крышыць, сячы — аж дым ідзе!

— Вы, пэўна, кавалерыстам былі?

— Ды не — кухарам!

Прыслаў **Я. Я.**

### У СУДЗЕ

— Вы скардзіліся на свайго сына, што ён падняў на вас руку.

— Не, не за тое, што падняў, а за тое, што ўдарыў.

Прыслаў **Янка Яськвіловіч**
**Пасынкі**



Засядзеўся.

*Песні па заяўках*

Янка Цілушэцкі з Новага Ляўкова просіць змясціць песню аб школьнай дружбе. Прапануем гэту:

## Школьная развітальная

Словы С. Балоціна — Музыка Л. Шварца




























Открылись нам вольные дали,
Товарищ, надолго прости!
Мы рядом с тобой прошагали
Веселого детства пути.

**Припев:**

Нет, не разрушит
Даже разлука
Школьную нашу семью.
Дай мне, товарищ,
Смуглую руку,
Верную руку твою. } 2 раза

Ты помнишь последний экзамен,
Веселый взволнованный класс?
И май, голубыми глазами
В окошко смотревший на нас?

**Припев**

И пусть будет каждый, где нужно
Для блага любимой страны.
Для школьной испытанной дружбы
Ни годы, ни даль не страшны.

**Припев**

А если за верность в награду
Мы встретимся снова в пути,
Какая огромная радость,
С товарищем рядом идти!

**Припев**



— Брахаць ці не?
— Памаўчы лепей... Усё роўна ён выкруціцца.

## ЛІСТ

— Ліст да цябе, — сказаў Кастусь, працягваючы мне распячатаны канверт.

— Паспеў распячатаць чужы ліст, — папракнуў я прыяцеля.

— Па-першае, — адказаў пакрыўджана Кастусь, — канверт сам распячатаўся (клей, падла, вельмі слабы робяць), а па-другое, які ж ты чужы, калі цябе тут кожны жук ды жаба ведае. Калі гневаешся, я павярну аглоблі на пошту. Там заклеяць канверт і заўтра пісьманосец прынясе табе ліст. Кастусь узяўся за клямку, а я закрычаў:

— Пастой, не гарачыся! Сядай ды чытай, ліха з табой.

— Так бы адразу сказаў, — прабурчэў Кастусь, рыхтуючыся чытаць.

— Ад каго пісьмо? — раз'ядала мяне цікавасць.

— Мабыць ад чытачкі, нейкай незнаёмай мне жанчыны, — адказаў Кастусь.

— Гэта здарова. Даўно ўжо я не атрымоўваў лістаў ад жанчыны.

— «Дарагі і мілы дружа...» — прачытаў Кастусь і затрымаўся, а я, падкручваючы вусы, заўважыў.

— Будзеш, Кастусь, чурбаком неабцесаным, калі не разумееш майго поспеху ў жанчын.

— Устрымайся, дзядзька са сваімі вывадамі, — кажа Кастусь. — Мо' пішучая — псіхічна хворая. Нармальная жанчына не магла б жа да цябе пісаць з такой далікатнасцю. Ну, але слухай далей.

— «Сягоння ты мне сніўся і таму пастанавіла напісаць да цябе...»

— Раздуй цябе гарою, Кастусь, ты сабе ўяўляеш, што я яшчэ снюся жанчынам?

— Нармальная справа, — кажа, скрывіўшы губы, Кастусь. — Часам і д'ябал прысніцца. Але слухай далей.

— «Калі я гутару з цёткай аб табе, мне прыпамінаецца...»

— Чакай Кастусь, у мяне ж няма цёткі.

— Гэта мабыць яе цётка, — паясняе Кастусь і далей чытае:

— «...прыпамінаецца, як ты прыехаў да нас, выкупаўся і, надзяваючы ніжнюю кашулю, застраг у ёй галавою. Пакуль ты стараўся вобмацкам расшпіліць гузікі, увайшла цётка і, думаючы, што гэта яе муж, пашлёпала цябе па голых ягадзіцах...»

Тут Кастусь пырснуў смехам, а я, пачырванеўшы, спытаў:

— Над кім смяешся, блудны сын?

— З гэтай сцэны вынікае, што ты, дзядзька, блудзіш, а не я, — агрызнуўся Кастусь і, выціраючы слёзы, дадаў: — Не хапала там толькі фатографа, вось дык кіно было б!

— Кастусь, гэтае пісьмо мабыць не да мяне, кажу.

— Мо' і не — спакойна адказвае Кастусь. Адрасавана да Леваня, а вось прозвішча ніяк нельга расчытаць.

— Якога ж чорта ты чытаў мне чужы ліст?

— Дзеля твайго задавалення. Ты ж расставаў, як цукар, глытаючы словы ліста.

Лясун бы схапіў гэтага Кастуся, ён заусёды навараць нейкага піва, а мне старому сорам.

*Дзядзька Левань*

 